# Сітуацыя з правамі чалавека ў Беларусі ў 2017 годзе. Аналітычны агляд

## ВЫСНОВЫ

- *на працягу 2017 года ў краіне назіралася значнае пагаршэнне агульнай сітуацыі з правамі чалавека ў параўнанні з папярэднім перыядам т.зв. "мяккіх практык", якія распачаліся ў жніўні 2015 г. і скончыліся з пачаткам масавых выступаў грамадзянаў, шмат у чым справакаваных ужываннем уладамі Дэкрэта № 3, у лютым 2017 г.*
- *хваля акцый пратэсту грамадзян, якая пракацілася па многіх гарадах краіны супраць прымянення Дэкрэта № 3, была ўспрынятая ўладамі як сур'ёзная пагроза дэстабілізацыі ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў краіне, што прывяло да пачатку рэпрэсій у дачыненні да ўдзельнікаў акцый пратэсту, актывістаў і лідараў апазіцыі, незалежных журналістаў і праваабаронцаў. Усяго на працягу сакавіка 2017 г. тым ці іншым формам рэпрэсій, па інфармацыі ПЦ «Вясна», было падвергнута больш за 900 чалавек (уключаючы удзельнікаў акцыі 25 сакавіка ў Мінску). Усяго, паводле даных ПЦ "Вясна", цягам 2017 года зафіксавана больш за 600 выпадкаў прыцягнення грамадзян да адміністрацыйнай адказнасці ў сувязі з рэалізацыяй свабоды мірных сходаў і выказвання меркаванняў, у больш чым 250 выпадках суддзі прызначалі грамадзянам адміністрацыйны арышт;*
- *на працягу 2017 года ўлады актыўна практыкавалі палітычна-матываваны крымінальны пераслед. Па інфармацыі ПЦ «Вясна», на працягу 2017 г. гэты від рэпрэсій ўжываўся ў дачыненні да 40 грамадзян. 35 з іх былі затрыманыя 21-24 сакавіка 2017 г. і ўтрымліваліся пад вартай у СІЗА па справе аб "падрыхтоўцы масавых беспарадкаў". Пазней 16 абвінавачаным было прад'яўлена дадатковае абвінавачанне па арт. 287 КК (стварэнне незаконнага ўзброенага фармавання). Таксама варта асобна адзначыць дагэтуль не спыненую крымінальную справу ў дачыненні да актывістаў незалежнага прафсаюза РЭП Генадзя Фядыніча і Ігара Комліка, распачатую па ч. 2 арт. 243 КК (ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры);*
- *на працягу года былі зафіксаваныя шматлікія выпадкі пераследу журналістаў незалежных СМІ ў сувязі з ажыццяўленнем імі прафесійнай дзейнасці. Па інфармацыі БАЖ, на працягу года былі зафіксаваныя 69 выпадкаў прыцягнення журналістаў да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе штрафаў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ;*

- *да канца 2017 г. з-пад варты былі вызваленыя практычна ўсе фігуранты раней распачатых крымінальных справаў, а большасць крымінальных справаў была спыненая, што сведчыць пра тое, што знешнепалітычныя і геапалітычныя фактары працягвалі аказваць істотны ўплыў на ўнутрыпалітычную сітуацыю ў краіне, у тым ліку і на сітуацыю з правамі чалавека. Нягледзячы на пагаршэнне агульнай сітуацыі ў краіне ў перыяд вясновых падзей, улады працягвалі прыкладаць намаганні, накіраваныя на працяг дыялогу і нармалізацыю адносінаў з краінамі Захаду (ЕС і ЗША);*
- *на канец 2017 г. у турмах краіны працягвалі знаходзіцца палітвязні Міхаіл Жамчужны і прызнаны міжнароднай праваабарончай арганізацыяй Amnesty International вязнем сумлення Дзмітрый Паліенка;*
- *нягледзячы на працяг дыялогу з ЕС і ПАСЕ па праблеме смяротнага пакарання і заклікі да ўвядзення мараторыя, на працягу года ў Беларусі працягвалася прымяненне гэтага віду пакарання. У 2017 г. былі вынесены тры новыя смяротныя прысуды, а адзін быў прыведзены ў выкананне;*
- *такім чынам, сістэмных зменаў у галіне грамадзянскіх і палітычных правоў на заканадаўчым узроўні цягам 2017 года не адбылося, а шырока анансаваныя ўладамі змены ў Закон «Аб масавых мерапрыемствах» не змянілі абмежавальнай сутнасці дадзенага закона і практыкі яго прымянення. Таксама не былі імплементаваныя рэкамендацыі БДІПЧ АБСЕ аб змяненні выбарчага заканадаўства.*

## I. ПАЛІТЫЧНА МАТЫВАВАНЫ КРЫМІНАЛЬНЫ ПЕРАСЛЕД

Пагаршэнне агульнай сітуацыі з правамі чалавека ў краіне і вяртанне ўладаў краіны да практыкі прымянення жорсткіх формаў рэпрэсій у дачыненні да грамадзян таксама прывяло да павелічэння выпадкаў крымінальнага пераследу па палітычных матывах у параўнанні з папярэднім перыядам (жнівень 2015 — люты 2017 года).

Асаблівае абвастрэнне сітуацыі назіралася напярэдадні правядзення прызначанай апазіцыйнымі сіламі традыцыйнай штогадовай дэманстрацыі 25 сакавіка. Аднак у мінулым годзе дэманстрацыя была анансаваная ў разгар «антыдармаедскіх» акцый пратэсту, якія пракаціліся па многіх гарадах краіны і якія выклікалі нервовую рэакцыю беларускіх уладаў. Менавіта жаданне збіць хвалю вулічных пратэстаў беларускіх грамадзян і паслужыла падставай для распачынання шэрагу палітычна матываваных крымінальных справаў.

21 сакавіка ў ходзе рабочай паездкі ў Магілёўскую вобласць Аляксандр Лукашэнка заявіў пра затрыманне за падрыхтоўку правакацыі са зброяй некалькіх дзесяткаў баевікоў. Ён распавёў пра гэта, адказваючы на пытанне аднаго з работнікаў прадпрыемства «Кронаспан», які пацікавіўся “прычынамі

актывізацыі ў апошні час так званай пятай калоны і розных апазіцыйных структур”.

Пасля дадзенай заявы стала вядома пра затрыманні спецслужбамі грамадзян 21-22, а таксама 24 сакавіка. Паводле афіцыйнай заявы КДБ, па падазрэнні ў здзяйсненні злачынства па ч. 3 арт. 293 КК (навучанне ці іншая падрыхтоўка асобаў для ўдзелу ў масавых беспарадках, а таксама фінансаванне ці іншае матэрыяльнае забеспячэньне такой дзейнасці) былі затрыманыя 26 грамадзян, сярод якіх актывісты «Маладога фронту» і былыя сябры арганізацыі «Белы легіён», якая спыніла сваю дзейнасць больш за 10 гадоў таму, а таксама кіраўнік афіцыйна зарэгістраванага ў г. Бабруйску ваенна-спартыўнага клуба «Патрыёт» М. Міхалькоў і трое яго былых выхаванцаў. Сярод затрыманых апынуліся дзеючыя вайскоўцы, супрацоўнік МНС і афіцэр памежных войскаў. Пазней, 25 сакавіка, МУС заявіла аб затрыманні яшчэ пецярых падазраваных. Агульная колькасць затрыманых па распачатай справе склала 35 чалавекі. Затрыманні суправаджалася дэманстрацыяй тэлепраграм прапагандысцкага чыну па нацыянальным тэлебачанні і нагнятаннем атмасферы страху ў грамадстве.

24 сакавіка падчас прэс-канферэнцыі ў офісе ПЦ «Вясна» з удзелам некаторых сваякоў затрыманых была распаўсюджаная сумесная заява праваабарончых арганізацый пра палітычна матываваны характары дадзенай крымінальнай справы.

1 красавіка з-пад варты ў сувязі са зменай меры стрымання вызвалілі актывістаў арганізацыі «Малады фронт» Змітра Крэмянецкага, Рамана Васільева, Арцёма Леўчанку і Уладзіміра Яроменку. 15 красавіка з СІЗА былі вызваленыя абвінавачаныя па ч. 3 арт. 293 КК лідар гэтай арганізацыі Зміцер Дашкевіч і актывіст Сяргей Пальчэўскі. Цягам красавіка і траўня з СІЗА былі вызваленыя практычна ўсе абвінавачаныя па ч. 3 арт. 293 Крымінальнага кодэкса. У той жа час, 16 абвінавачаным па ч. 3 арт. 293 КК былі прад'яўленыя дадатковыя абвінавачванні па арт. 287 КК (стварэнне незаконнага ўзброенага фармавання) і яны працягвалі знаходзіцца ў СІЗА да канца чэрвеня.

Варта адзначыць закрыты для грамадскасці характар дадзенай крымінальнай справы і адсутнасць якой-небудзь афіцыйнай інфармацыі аб яе расследаванні, сутнасці прад'яўленых абвінавачванняў, аб фізічным стане і ўмовах утрымання асобаў, якія знаходзіліся пад вартай. Пад пагрозай крымінальнага пераследу адвакатам было забаронена раскрываць інфармацыю аб стане іх кліентаў, аб скаргах на парушэнні іх правоў. У падазраваных і абвінавачаных па гэтай справе, якія былі вызваленыя з-пад варты ў сувязі са зменай меры стрымання, незаконна, у парушэнне патрабаванняў ч. 2 арт. 198 КПК Рэспублікі Беларусь, органамі следства браліся падпіскі пра неразгалошваньне даных папярэдняга расследавання, пры гэтым тэрмін “даныя папярэдняга

расследавання” традыцыйна трактаваўся службовымі асобамі надзвычай шырока. Гэта сур'ёзным чынам абмяжоўвала права на абарону абвінавачаных па справе і ўскладняла яе ацэнку праваабарончай супольнасцю.

2 чэрвеня з СІЗА на волю ў сувязі са зменай меры стрымання выйшлі апошнія з абвінавачаных па ч. 3 арт. 293 КК Сяргей Кунцэвіч і Андрэй Бяляўскі.

Пасля вызвалення ў інтэрв'ю Радыё Свабода, а пазней і ПЦ «Вясна» Сяргей Кунцэвіч распавёў, што ў будынку КДБ ён падвяргаўся катаванням электрашокерам — такім чынам у яго спрабавалі даведацца месцазнаходжанне палітыка Мікалая Статкевіча. Раней пра пагрозы фізічнага гвалту заяўлялі лідар «Маладога фронту» Зміцер Дашкевіч і актывіст Сяргей Пальчэўскі. Таксама С. Пальчэўскі заявіў аб вярбоўцы яго КДБ. Варта адзначыць, што на працягу года было зафіксавана некалькі падобных выпадкаў вярбоўкі і распрацоўкі грамадзянскіх актывістаў з боку спецслужбаў.

У сувязі з агучанай інфармацыяй пра ўжыванне катаванняў праваабарончыя арганізацыі Беларусі выступілі з заявай, у якой запатрабавалі ад уладаў краіны правядзення расследавання названых Сяргеем Кунцэвічам фактаў, а таксама змены меры стрымання і вызвалення ўсіх фігурантаў “крымінальнай справы аб падрыхтоўцы масавых беспарадкаў”.

13 чэрвеня стала вядома аб спыненні крымінальнага пераследу па ч. 3 арт. 293 (падрыхтоўка масавых беспарадкаў) у дачыненні да ўсіх шасцярых актывістаў арганізацыі «Малады фронт». Крымінальны пераслед Змітра Крэмянецкага, Змітра Дашкевіча, Сяргея Пальчэўскага, Рамана Васільева, Уладзіміра Яроменка і Арцёма Леўчанкі быў спынены ў сувязі з адсутнасцю ў іх дзеяннях складу злачынства.

16 чэрвеня Следчы камітэт Рэспублікі Беларусь паведаміў аб прыняцці да вытворчасці крымінальнай справы аб стварэнні незаконнага ўзброенага фармавання, якая раней вялася КДБ. Адначасова было паведамлена аб спыненні крымінальнай справы, распачатай па ч. 3 арт. 293 КК (падрыхтоўка масавых беспарадкаў).

27-30 чэрвеня з-пад варты ў сувязі са зменай меры стрымання былі вызваленыя астатнія абвінавачаныя па справе аб арганізацыі незаконнага ўзброенага фармавання Сяргей Стрыбульскі, Аляксандр Зімніцкі, Уладзімір Фёдараў, Уладзімір Румянцаў, Цімур Пашкевіч, Аляксандр Яўдаха, Віктар Данілаў, Андрэй Комлік-Ямацін, Дзмітрый Новік, Аляксей Абрамаў, Андрэй Дундукоў, Іван Кавальчук, Віктар Мароз і Міраслаў Лазоўскі.

Ва ўсіх вызваленых абвінавачаных у парушэнне ч. 2 арт. 198 КПК Рэспублікі Беларусь таксама былі ўзятыя падпіскі аб невыдаванні звестак папярэдняга следства, у сувязі з чым ніякіх каментароў па сутнасці прад'яўленага

абвінавачання і ходзе расследавання вызваленыя з-пад варты СМІ не давалі, таксама, як і іх адвакаты. Сітуацыя яшчэ больш ускладнілася з пачаткам 12 і 15 верасня ініцыяванай Міністэрствам юстыцыі пазачарговай атэстацыі некаторых адвакатаў Мінскай гарадской калегіі адвакатаў. Па выніках пераатэстацыі, кваліфікацыйная камісія Мінюста пазбавіла ліцэнзіі адвакатку Ганну Бахціну, а рашэнне аб атэстацыі яшчэ семярых адвакатаў было адкладзена на паўгода. Дадзены факт быў ацэнены праваабарончай супольнасцю як непрыкрыты ціск Мінюста на адвакатаў, якія раней неаднаразова бралі ўдзел у абароне фігурантаў палітычна матываваных крымінальных справаў, а таксама як грубае парушэнне права на абарону абвінавачаных па справе аб незаконным узброеным фарміраванні, абарона якіх таксама ажыццяўлялася "ўмоўна атэставанымі" Мінюстам адвакатамі.

Пры такіх абставінах, эксперты ПЦ «Вясна» заявілі, што практычна выключаюць магчымасць правядзення судовага разбору па гэтай крымінальнай справе ў адпаведнасці са стандартамі справядлівага правасуддзя, адным з якіх з'яўляецца магчымасць атрымання прафесійнай юрыдычнай дапамогі незалежнага адваката. Патрабаванне аб спыненні крымінальнага пераследу ўсіх абвінавачаных па "справе аб стварэнні незаконнага ўзброенага фармавання" змяшчалася таксама і ў Рэзалюцыі IV Беларускага праваабарончага форуму, які прайшоў у Вільні 20-21 кастрычніка.

14 лістапада стала вядома аб спыненні крымінальнай справы ў дачыненні да ўсіх абвінавачаных па гэтай справе. Варта адзначыць, што Следчы камітэт спыніў справу па п. 2 ч.1 арт. 29 КПК (за адсутнасцю ў дзеі складу злачынства), патлумачыўшы пры гэтым, што "прафесійная падрыхтоўка, якая праводзілася ў групе, можа быць кваліфікаваная як баявая падрыхтоўка, характэрная для асабістага складу вайсковага фармавання альбо для незаконнага ўзброенага фармавання». «Разам з тым, — адзначалася ў паведамленні СК, — у ходзе папярэдняга расследавання ўстаноўлена, што названыя дзеянні абвінавачаных не былі накіраваныя на гвалтоўнае змяненне канстытуцыйнага ладу і (або) тэрытарыяльнай цэласнасці дзяржавы, а таксама на здзяйсненне якіх-небудзь іншых супрацьпраўных дзей і не ўяўляюць грамадскую небяспеку, уласцівую злачынству, паколькі не прычынілі істотную шкоду ахоўваемым крымінальным законам інтарэсам і грамадскім адносінам". З улікам выкладзенага, дадзеныя дзеянні абвінавачаных у адпаведнасці з ч. 4 арт. 11 КК былі прызнаныя нязначнымі.

Варта адзначыць, што спыненне крымінальнага пераследу па п. 2 ч. 1 арт. 29 КПК з'яўляецца падставай для кампенсацыі маральнай шкоды. Аднак спробы спагнаць маральную шкоду ў сувязі з незаконным утрыманнем пад вартай актывіста «Маладога фронту» Змітра Крэмянецкага скончыліся беспаспяхова.

Суд Маскоўскага раёна г. Мінска адмовіў у задавальненні заяўленых Змітром іскавых патрабаванняў.

Пэўным працягам “справы аб незаконным узброеным фармаванні” стала крымінальная справа па ч. 2 арт. 295 КК (незаконны выраб, набыццё, перадача ў валоданне, збыт, захоўванне, перавозка, перасылка або нашэнне агністрэльнай зброі, боепрыпасаў, выбуховых рэчываў і г.д.) у дачыненні да Андрэя Бяляўскага. Падчасператрусу пры затрыманні па “справе аб масавых беспарадках” у сакавіку ў яго быў знойдзены агністрэльны боепрыпас (адзін патрон). 12 снежня А. Бяляўскаму было прад'яўленае абвінавачванне. Праваабаронцы заклікалі СК прызнаць дадзенае правапарушэнне малазначным і спыніць справу, але справа была накіравана на разгляд у суд.

Яшчэ адной знакавай справай 2017 года стаў крымінальны пераслед старшыні незалежнага прафсаюзу РЭП Генадзя Фядыніча і старшыні мінскай гарадзкой арганізацыі РЭП, бухгалтара прафсаюза Ігара Комліка. На думку шэрагу аналітыкаў, гэтая крымінальная справа таксама было звязаная з дзейнасцю дадзенага прафсаюза ў перыяд вясновых масавых “антыдармаедскіх” пратэстных выступаў.

2 жніўня ў памяшканні мінскага офіса незалежнага прафсаюзу РЭП і ў цэнтральным офісе Беларускага незалежнага прафсаюзу ў г. Салігорску прайшлі ператрусы, якія былі праведзены Дэпартаментам фінансавых расследаванняў у межах распачатай крымінальнай справы па ч. 2 арт. 243 (ухіленне ад выплаты сум падаткаў, збораў у асабліва буйным памеры) Крымінальнага кодэкса Беларусі.

У якасці падазраваных органамі ДФР былі затрыманыя лідар прафсаюза РЭП Генадзь Фядыніч і бухгалтар прафсаюза Ігар Комлік. У гэты ж дзень Генадзь Фядыніч быў вызвалены, а Ігар Комлік застаўся пад вартай.

10 жніўня Ігару Комліку было прад’яўленае абвінавачанне па ч. 2 арт. 243 КК і абраная мера стрымання ў выглядзе ўтрымання пад вартай. І. Комлік быў пераведзены ў СІЗА № 1 у г. Мінску. 11 жніўня аналагічнае абвінавачанне было прад’яўлена Г. Фядынічу і ў дачыненні да яго абраная мера стрымання ў выглядзе падпіскі аб нявыездзе.

Падставай для крымінальнага пераследу актывістаў прафсаюза стала атрыманне замежнай дапамогі прафсаюзам РЭП ад аднаго з еўрапейскіх партнёраў. Дадзеная справа яшчэ раз прадэманстравала праблему бесперашкоднага доступу няўрадавых арганізацый да замежнага фінансавання і прававога рэгулявання магчымасці атрымання такой дапамогі.

3 жніўня праваабарончыя арганізацыі Беларусі заявілі, што лічаць Ігара Комліка палітвязнем і звязваюць пераслед прафсаюзных лідараў з іх актыўнай прафсаюзнай дзейнасцю і ажыццяўленнем правы на свабоду асацыяцыі.

Затрыманне лідараў незалежных беларускіх прафсаюзаў выклікала істотны міжнародны рэзананс. Глабальны саюз IndustriALL і Міжнародная канфедэрацыя прафсаюзаў заклікалі ўлады Беларусі спыніць пераслед Генадзя Фядыніча і Ігара Комліка. Акрамя гэтага, з заявай выступіла Абсерваторыя па абароне праваабаронцаў, партнёрская праграма FIDH і Сусветнай арганізацыі супраць катаванняў (OMCT), якая таксама заклікала беларускі ўрад зняць усе абвінавачванні з Ігара Комліка і спыніць крымінальны пераслед лідґраў прафсаюзных арганізацый за іх мірную дзейнасць. З заявай з патрабаваннем зняць усе абвінавачванні з Ігара Комліка і Генадзя Фядыніча выступіла вядомая шведская праваабарончая арганізацыя Civil Rights Defenders.

2 кастрычніка Ігара Комліка вызвалілі з СІЗА № 1 Мінска ў сувязі са зменай меры стрымання на падпіску аб нявыездзе. Аднак крымінальны пераслед Г. Фядыніча і І. Комліка да канца 2017 г. спынены не быў.

7 красавіка суд Заводскага раёна г. Мінска, разгледзеўшы прадстаўленне органаў унутраных справаў, адмяніў адтэрміноўку выканання раней вынесенага прысуду ў дачыненні да актывіста Дзмітрыя Паліенкі. З улікам часу, праведзенага ў 2016 годзе пад вартай да суда, тэрмін зняволення актывіста склаў паўтара года і 13 дзён. Д. Паліенка быў накіраваны ў ВК-2 г. Бабруйска для адбыцця пакарання. Варта нагадаць, што 12 кастрычніка 2016 года суд Цэнтральнага раёна г. Мінска прызнаў Д. Паліенку вінаватым у здзяйсненні злачынстваў па арт. 364 (гвалт альбо пагроза ўжывання гвалту ў дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных справаў) і ч. 2 арт. 343 КК (выраб і распаўсюджванне парнаграфічных матэрыялаў або прадметаў парнаграфічнага характару) і прысудзіў яго да двух гадоў пазбаўлення волі з адтэрміноўкай выканання прысуду. Крымінальны пераслед Д. Паліенкі быў распачаты пасля яго затрымання супрацоўнікамі міліцыі за ўдзел у велапрабегу «Крытычная маса». Праваабаронцы віталі вызваленне Д. Паліенкі па прысудзе суда Цэнтральнага раёна, але ў той жа час канстатавалі адсутнасць дастатковых і пераканаўчых доказаў па крымінальнай справе з боку абвінавачання — як у частцы інкрымінуемага гвалту ў дачыненні да супрацоўніка міліцыі, так і ў частцы распаўсюджвання парнаграфічных матэрыялаў у інтэрнэце.

У сувязі з адменай адтэрміноўкі выканання пакарання і зняволеннем Д. Паліенкі, праваабарончыя арганізацыі прынялі сумесную заяву аб прызнанні яго палітвязнем і з патрабаваннем яго неадкладнага вызвалення. 22 жніўня Міжнародная праваабарончая арганізацыя Amnesty International выступіла з

заявай аб прызнанні Дзмітрыя Паліенкі вязнем сумлення і патрабаваннем яго неадкладнага і безумоўнага вызвалення.

У 2017 г. пэўны грамадскі рэзананс атрымала крымінальная справа, распачатая па ч. 1 арт. 339 КК у дачыненні да сацыяльнага актывіста Вячаслава Касінерава, які быў узяты пад варту 28 сакавіка па абвінавачванні ў здзяйсненні злачынства па ч. 1 арт. 339 КК (хуліганства). Падставай для прыцягнення да крымінальнай адказнасці стала акцыя-перфоманс, праведзеная ім 12 сакавіка каля будынка МУС у г. Мінску. У ходзе перфоманса В. Касінераў накінуў пятлю на статую паліцэйскага-гарадавога часоў Расійскай імперыі, пратэстуючы такім чынам супраць міліцэйскай беспакаранасці і пераследу актывістаў анархісцкага руху ў краіне.

5 красавіка дзевяць праваабарончых арганізацый выступілі з сумеснай заявай аб прызнанні Вячаслава Касінерава палітвязнем і патрабаваннем яго неадкладнага вызвалення.

21 красавіка мера стрымання ў дачыненні да В. Касінерава была зменена на падпіску аб нявыездзе, і ён быў вызвалены з-пад варты. 27 красавіка суд Маскоўскага раёна г. Мінска прызнаў В. Касінерава вінаватым у здзяйсненні хуліганства (ч. 1 арт. 339 КК) і прысудзіщ яго да штрафу ў памеры 5 базавых велічынь. Нягледзячы на адносна мяккае пакаранне, праваабаронцы не змянілі ацэнкі характару дзеянняў уладаў па гэтай справе.

На працягу года ў поле зроку праваабаронцаў патрапіў шэраг іншых крымінальных справаў, якія на думку праваабарончай супольнасці насілі палітычна матываваны характар.

У траўні стала вядома аб пачатку крымінальнай справы па ч. 1 арт. 368 КК (абраза прэзідэнта Рэспублікі Беларусь) у дачыненні да актывістаў грамадзянскай кампаніі «Еўрапейская Беларусь» у г. Брэсце Паліны Шарэнда-Панасюк і Андрэя Шарэнды. Варта адзначыць, што праваабарончая супольнасць Беларусі настойвае на дэкрыміналізацыі дыфамацыйных правапарушэнняў і лічыць практыку крымінальнага пераследу за такія правапарушэнні не адпаведнай міжнародным стандартам у галіне правоў чалавека. 17 чэрвеня актывісты былі апавешчаныя ўпраўленнем Следчага камітэта па Брэсцкай вобласці аб спыненні крымінальнага пераследу.

11 студзеня 2017 г. Андрэю Бандарэнку, які адбываў пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі ў сувязі з здзяйсненнем злачынстваў па ч. 1-3 арт. 339 КК (хуліганства), было прад'яўленае канчатковае абвінавачанне па ч. 2 арт. 411 КК — «Злоснае непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы, якая выконвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі, здзейсненае асобай, асуджанай за цяжкае або асабліва цяжкае злачынства», за што яму пагражала пазбаўленне волі на тэрмін да двух гадоў.

Праваабаронцы заявілі, што ў выпадку асуджэння да новага тэрміна пазбаўлення волі А. Бандарэнкі па ч. 2 арт. 411 КК РБ яны гатовыя прызнаць яго палітычным вязнем. 30 сакавіка суд Ленінскага р-на г. Мінска апраўдаў А. Бандарэнку, і 31 сакавіка ён выйшаў на волю ў сувязі са сканчэннем тэрміну зняволення.

Пасля пяці месяцаў прымусовага лячэння па пастанове суда Фрунзенскага р-на г. Мінска ў красавіку з псыхіятрычнай бальніцы быў вызвалены пенсіянер Аляксандр Лапіцкі. Раней праваабаронцы выступалі з сумеснай заявай аб прызнанні А. Лапіцкага палітвязнем і патрабавалі яго вызвалення з псыхіятрычнай бальніцы і, пры неабходнасці, забеспячэння яго лячэння ва ўмовах, не звязаных з пазбаўленнем волі, а таксама прыняцця мер, накіраваных на дэкрыміналізацыю дыфамацыйных правапарушэнняў у заканадаўстве Беларусі.

Такім чынам, палітычна матываваны пераслед цягам 2017 года ажыццяўляўся ў дачыненні да 40 чалавек. На канец 2017 года ў турмах працягвалі заставацца палітвязні Міхаіл Жамчужны і Дзмітрый Паліенка.

Ацэньваючы сітуацыю з праблемай палітычна матываваных крымінальных праследаў у 2017 годзе ў цэлым, варта заўважыць, што вялікая колькасць асобаў, якія падпалі пад гэты від палітычных рэпрэсій, сведчыць аб рэзкім пагаршэнні агульнай сітуацыі з правамі чалавека ў краіне ў параўнанні з папярэднім 2016 г. Асноўны пік рэпрэсій прыйшоўся на вясновыя месяцы, калі па краіне пракацілася хваля масавых пратэстных выступленняў грамадзян, якія шмат у чым былі справакаваныя самімі ўладамі ў сувязі з пачаткам масавага прымянення палажэнняў г.зв. “антыдармаедскага” Дэкрэта прэзідэнта № 3, што ў сваю чаргу сведчыць аб жаданні ўладаў збіць такім чынам пратэстныя настроі ў грамадстве і ўзяць сітуацыю пад жорсткі кантроль.

З іншага боку, вызваленне практычна ўсіх затрыманых у перыяд вясновых падзей і спыненне большасці раней распачатых крымінальных справаў сведчыць аб тым, што тыя геапалітычныя працэсы, якія раней пачаліся ў рэгіёне Беларусі (украінска-расійскі крызіс у першую чаргу), і жаданне нармалізацыі адносінаў з краінамі Захаду (ЕС і ЗША) працягвалі адыгрываць сваю ролю ва ўнутрыпалітычнай сітуацыі ў краіне і ў 2017 годзе, што безумоўна працягвала аказваць уплыў і на сітуацыю з правамі чалавека.

## II. ЦІСК НА ПРАВААБАРОНЦАЎ

Агульная сітуацыя з правамі чалавека ў краіне аказвала ўплыў і на становішча праваабаронцаў. З аднаго боку, улады краіны ў шэрагу выпадкаў дэманстравалі пэўныя крокі ў кірунку дыялогу з праваабаронцамі, але, у той

жа час, абвастрэнне агульнай сітуацыі ў перыяд вясновых пратэстаў прывяло да ўзмацнення ціску таксама і ў дачыненні да праваабаронцаў.

Паказальным прыкладам такога ціску з'яўляецца захоп офіса Праваабарончага цэнтра «Вясна» 25 сакавіка ў момант правядзення інструктажу валанцёраў, якія павінны былі ажыццяўляць назіранне за правядзеннем дэманстрацыі, анансаванай напярэдадні прадстаўнікамі апазыцыйных сілаў.

У выніку былі затрыманыя больш за 50 валанцёраў, журналістаў і прадстаўнікоў замежных і міжнародных арганізацый. Сярод затрыманых апынуліся: Алег Гулак (старшыня РПГА «БХК»), Раіса Міхайлоўская, Людміла Кучура, Зміцер Дрозд (Беларускі дакументацыйнага цэнтр), Алесь Бяляцкі, Наста Лойка, Ірына Смяян-Семянюк, Сяржук Семянюк, Аляксей Лойка (ПЦ «Вясна»), Марыя Шышчанкова (Front Line Defenders), Яўгенія Андрэюк («Крым-SOS»). Аляксей Лойка ў выніку незаконнага прымянення да яго фізічнай сілы супрацоўнікамі АМАП быў шпіталізаваны з чэрапна-мазгавой траўмай. Пры гэтым збітаму супрацоўнікамі АМАП А. Лойку было пасля адмоўлена ва ўзбуджэнні крымінальнай справы ў дачыненні да супрацоўнікаў органаў унутраных справаў.

Як пазней стала вядома з чарговага адказу Следчага камітэта, атрыманага А. Лойкам, атака АМАП на офіс ПЦ «Вясна» і наступныя затрыманні ўсіх праваабаронцаў, якія знаходзіліся ў ім 25 сакавіка, былі ініцыяваныя органамі КДБ і праходзілі па асабістым указанні кіраўніцтва ГУУС Мінгарвыканкама.

У перыяд ўсплёску масавых рэпрэсій у дачыненні да ўдзельнікаў і арганізатараў акцый пратэсту супраць прымянення Дэкрэта № 3 у розных рэгіёнах ахвярамі рэпрэсій часта, нароўні з непасрэднымі ўдзельнікамі гэтых акцый, актывістамі апазіцыі і журналістамі, станавіліся праваабаронцы. Прычым варта адзначыць, што іх затрыманне ажыццяўлялася выключна ў сувязі з ажыццяўленнем імі праваабарончай дзейнасці.

Так, да адміністрацыйнай адказнасці ў выглядзе арышту за ўдзел у несанкцыянаваным сходзе былі прыцягнутыя пяцёра праваабаронцаў: Л. Свецік, К. Мардзвінцаў (ПЦ «Вясна»), П. Левінаў, А. Яўсеенка і Э. Баланчук (БХК). Па ілжывых сведчаннях супрацоўнікаў АМАП затрыманая і пакараная штрафам прэзідэнтка Дома правоў чалавека Таццяна Рэвяка. У сувязі з гэтым міжнародныя праваабарончыя арганізацыі неаднаразова выступалі з заявамі ў адрас беларускіх уладаў з патрабаваннем спыніць ціск на праваабаронцаў.

Не атрымала станоўчага развіцця цягам 2017 г. і сітуацыя з высланай з краіны ў 2015 г. кіраўніцай Цэнтра прававой трансфармацыі, праваабаронцай Аленай Танкачовай. Расійскай грамадзянцы Алене Танкачовай забаронена ўязджаць у Беларусь да лютага 2018 года. МУС Беларусі без тлумачэння прычынаў неаднаразова адмаўлялася скараціць дадзены тэрмін.

Дадзеныя дзеянні ўладаў Рэспублікі Беларусь ацэньваюцца праваабарончай супольнасцю як пераслед А. Танкачовай у сувязі з яе актыўнай праваабарончай дзейнасцю. Патрабаванні аб забеспячэнні яе беспераешкоднага вяртання ў Рэспубліку Беларусь з'яўляюцца складнікам праваабарончага парадку дня.

У ходзе паралельнага форуму грамадзянскай супольнасці, які прайшоў у Мінску 4 ліпеня напярэдадні сесіі Парламенцкай асамблеі АБСЕ, 65 беларускіх і замежных праваабаронцаў падпісаліся пад зваротам на адрас міністраў замежных і ўнутраных справаў Уладзіміра Макея і Ігара Шуневіча з патрабаваннем дазволіць Алене Танкачовай неадкладна вярнуцца ў Беларусь і выключыць яе са спісу асобаў, уезд якім у краіну забаронены. Зварот пакінуты без разгляду. Не дало выніку і наступнае абскарджанне дзеянняў МУС у судовым парадку.

Не знайшла свайго станоўчага вырашэння і праблема адсутнасці рэгістрацыі Праваабарончага цэнтра «Вясна». Цягам 2017 годзе ўлады ў цэлым захоўвалі негатыўнае і канфрантацыйнае стаўленне да арганізацыі, а адсутнасць якога-небудзь бачнага прагрэсу ў сферы свабоды асацыяцыі ў краіне, як і раней, робіць спробы атрымання дзяржаўнай рэгістрацыі ПЦ «Вясна» бессэнсоўнымі з прычыны вельмі прадказальнага адмоўнага выніку. Гэта датычыцца і праблемы рэгістрацыі некаторых іншых праваабарончых арганізацый і ініцыятываў.

## III. ПРАВА НА ЖЫЦЦЁ. ПРАБЛЕМА СМЯРОТНАГА ПАКАРАННЯ

Нягледзячы на працяг дыялогу афіцыйнага Мінска па праблеме смяротнага пакарання, на працягу 2017 года ў Рэспубліцы Беларусь працягвалі ўжываць дадзены від пакарання на практыцы.

17 сакавіка стала вядома аб вынясенні Гомельскім абласным судом першага ў 2017 годзе смяротнага прысуду ў дачыненні да 32-гадовага жыхара г. Нароўля Аляксея Міхалені.

У траўні праваабаронцам стала вядома аб прывядзенні ў выкананне смяротнага прысуду ў дачыненні да жыхара Гомеля Сяргея Вострыкава.

21 ліпеня Магілёўскі абласны суд вынес смяротны прысуд двум абвінавачаным у серыі забойстваў па рэзананснай справе “чорных рыэлтараў” Ігару Гершанкову і Сямёну Беражному. 20 снежня Калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда Беларусі вынесла вызначэнне па апеляцыйных скаргах фігурантаў і адмовіла ў іх задавальненні. Такім чынам, вынесены смяротны прысуд уступіў у законную сілу.

Таксама на канец 2017 года, па звестках праваабаронцаў, у СІЗА-1 МУС знаходзіўся раней асуджаны да дадзенага выгляду пакарання Кірыл Казачок.

Разам з тым, працягвалася работа зноў створанай парламенцкай працоўнай групы па пытаннях вывучэння адмены смяротнага пакарання. Падчас свайго выступу ў ходзе абмеркавання сітуацыі з правамі чалавека і развіццём дэмакратыі ў Беларусі пасля парламенцкіх выбараў, якая прайшла 24 студзеня ў Парламенцкай Асамблеі Савета Еўропы (ПАСЕ) у Страсбургу, старшыня Пастаяннай камісіі па правах чалавека, нацыянальных адносінах і СМІ і кіраўнік працоўнай групы па пытаннях смяротнага пакарання Андрэй Навумовіч заявіў пра гатоўнасць правядзення парламенцкіх слуханняў па праблеме смяротнага пакарання ў краіне.

Раней прадстаўнікі кампаніі «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі» звярнуліся з прапановай аб правядзенні парламенцкіх слуханняў да ўсіх 110 дэпутатаў парламента.

Прадстаўнікі ЕС, Савета Еўропы працягвалі заклікаць улады Беларусі да ўвядзення мараторыя на прымяненне смяротнага пакарання.

Працягвала сваю актыўную працу, як на міжнародным, так і нацыянальным узроўні, кампанія «Праваабаронцы супраць смяротнага пакарання ў Беларусі».

6 лютага ў Еўрапейскім парламенце адбыліся слуханні па праблеме смяротнага пакарання ў Беларусі. Перад парламентарыямі выступілі прадстаўнікі ПЦ «Вясна» Валянцін Стэфановіч, Андрэй Палуда, а таксама Любоў Кавалёва, маці расстралянага па прысудзе суда Уладзіслава Кавалёва.

Кіраўнік краіны А. Лукашэнка, тым не менш, працягваў апеляваць да грамадскай думкі грамадзян краіны, якія выказаліся па гэтым пытанні на агульнанацыянальным рэферэндуме ў 1996 годзе. 3 лютага на сустрэчы з прадстаўнікамі беларускіх і замежных СМІ ў Мінску Аляксандр Лукашэнка заявіў, што адмена смяротнага пакарання або ўвядзенне мараторыя на яго прымяненне залежаць не ад яго, хоць і маглі б станоўча адбіцца на яго іміджы. «Я не маю права адмяніць смяротнае пакаранне альбо накласці мараторый на яго правядзенне», — сказаў ён. «У нас прайшоў рэферэндум, я праз людзей пераступіць не магу. Калі б яго не было, я б неяк пра гэта мог падумаць».

24 лістапада на чарговай сустрэчы з журналістамі А. Лукашэнка, кажучы пра праблему смяротнага пакарання, заявіў: «Калі мы захочам гэта зрабіць, то трэба вынесці гэтае пытанне на рэферэндум». Далей ён дадаў: «Калі мы сёння вынесем пытанне аб смяротнай кары на рэферэндум, мне не трэба вам распавядаць, вы ведаеце, які будзе вынік». На жаль, А. Лукашэнка застаецца прыхільнікам смяротнага пакарання ў Беларусі.

## IV. СВАБОДА МІРНЫХ СХОДАЎ І ВЫКАЗВАННЯ МЕРКАВАННЯЎ

2017 год практычна не змяніў становішча ў галіне выканання ўладамі Беларусі правоў на свабодны ўдзел у мірных сходах і свабоднае выказванне

меркаванняў, у тым ліку шляхам адзіночнага пікетавання (заканадаўствам Беларусі пікет, нават адзіночны, з'яўляецца відам масавага мерапрыемства).

Устаноўлены для арганізацыі любога выгляду мірных сходаў ці пікетаў парадак атрымання дазволу прадугледжвае непрапарцыйна шырокія абавязальніцтвы арганізатараў па забеспячэнні грамадскага парадку, медыцынскага абслугоўвання і прыборкі тэрыторыі. Шырока анансаваныя змены ў закон аб масавых мерапрыемствах не змяняюць абмежавальны і рэпрэсіўны характар заканадаўства і не ліквідуюць яго адыёзныя і найбольш крытычныя палажэнні. Рэалізацыя права па-ранейшаму залежыць ад меркавання органаў выканаўчай улады, матэрыяльнага становішча арганізатараў, згоды органаў правапарадку, медыцынскіх установаў і камунальных службаў.

Удзел, арганізацыя, а таксама асвятленне мірных сходаў без дазволу ўладаў цягне адміністрацыйную адказнасць у выглядзе штрафаў або адміністрацыйнага арышту. Леташняя палітыка пакарання ўдзельнікаў масавых мерапрыемстваў па артыкуле 23.34 КаАП буйнымі штрафамі, без затрыманняў і прызначэння адміністрацыйных арыштаў, без умяшання ў правядзенне самога мерапрыемства пратрымалася да канца лютага, калі першыя адміністрацыйныя арышты былі прызначаны ўдзельнікам пікетавання будоўлі ў меркаванай ахоўнай зоне ўрочышча Курапаты — месцы масавага пахавання ахвяраў савецкіх рэпрэсій.

Тады ж, у лютым у краіне пракацілася хваля мірных пратэстаў супраць прэзідэнцкага Дэкрэта № 3, які прадугледзеў выплату збору некаторымі катэгорыямі грамадзян, якія, па ўказаным Дэкрэце, не ўдзельнічаюць у фінансаванні дзяржаўных расходаў. Праваабаронцы ацанілі Дэкрэт як парушэнне права грамадзянащ на свабодную працу. Насуперак чаканням уладаў, увядзенне гэтага збору падвергнулася рэзкай крытыцы і шырокімі, у тым ліку непалітызаванымі, пластамі грамадства.

Мясцовыя органы ўлады паўсюдна адмовілі ў дазволах на правядзенне пратэстных мерапрыемстваў; тым не менш, масавыя акцыі супраць Дэкрэта «Марш недармаедаў» упершыню прайшлі ў Мінску 17 лютага і ў абласных цэнтрах 19 лютага. Прадстаўнікі міліцыі не разганялі ўдзельнікаў мерапрыемстваў, але адразу ж стала вядома пра вялікую колькасць складзеных пратаколаў, а пазней — пра буйныя штрафы, якімі, як правіла, караліся пратэстоўцы. Нягледзячы на ціск, акцыі пратэсту працягваліся ў сакавіку і ахапілі акрамя сталіцы і абласных цэнтраў таксама іншыя гарады Беларусі. Адказам на актыўнасць грамадзянаў сталі жорсткія рэпрэсіі: больш за дзвесце затрыманых і арыштаваных, з іх прынамсі 70 затрыманых і 54 падвергнутых арышту толькі за акцыю 15 сакавіка. Адзначана практыка так званых прэвентыўных адвольных арыштаў. Новыя рэпрэсіі супраць мірных

дэманстрантаў пацвердзілі адсутнасць палітычных зменаў, што было адзначана ў сумеснай заяве FIDH і Праваабарончага цэнтра «Вясна».

25 сакавіка адбыліся вулічныя акцыі, прысвечаныя Дню Волі — гадавіне абвяшчэння БНР. Да гэтага дня ўлады сцягнулі ў г. Мінск вялікую колькасць супрацоўнікаў спецназа і АМАП, якія дэманстравалі зброю і найноўшую тэхніку для разгону дэманстрацыяў. З раніцы ўвесь раён збору ўдзельнікаў акцыі быў перакрыты і ачэплены міліцыяй. Мінгарвыканкам прапанаваў непасрэдна напярэдадні мерапрыемства адзіную пляцоўку для яго правядзення — парк Дружбы народаў — і заявіў аб незаконнасці правядзення сходу ў любых іншых раёнах горада.

Нягледзячы на выключна мірны характар мерапрыемства, многія яго ўдзельнікі былі затрыманыя з прымяненнем неапраўданай сілы; у ліку затрыманых апынуліся выпадковыя мінакі. Многія затрыманыя правялі доўгі час у чаканні афармлення затрымання пад адкрытым небам на тэрыторыі упраўленняў унутраных справаў, дзе ў іх дачыненні дапушчалася жорсткае і прыніжальнае абыходжанне.

Частка затрыманых была пасля фіксацыі дадзеных адпушчаная, а астатнія, а таксама ўдзельнікі акцыі салідарнасці, якая прайшла 26 сакавіка на Кастрычніцкай плошчы ў Мінску, 27 сакавіка прайшлі праз судовы канвеер, дзе ім былі вызначаны адміністрацыйныя спагнанні — штрафы і адміністрацыйныя арышты.

Па звестках ПЦ «Вясна», усяго ў адміністрацыйным парадку 27 сакавіка былі асуджаны 178 чалавек: 145 у Мінску і 33 у рэгіёнах — у Бабруйску (3), Барысаве (2), Брэсце (1), Віцебску (11), Гомелі (14) і Полацку (2). У якасці пакарання назіральнікі налічылі 75 арыштаў і 93 штрафы. У тым ліку ў Мінску як мінімум 57 арыштаў і 80 штрафаў; у рэгіёнах як мінімум 18 арыштаў і 13 штрафаў.

Акцыі пратэсту 25 сакавіка прайшлі і ў рэгіёнах. За сакавік ахвярамі пераследу актывістаў за рэалізацыю свайго права на мірныя сходы і выказванне меркаванняў, па дадзеных ПЦ «Вясна», сталі больш за 900 чалавек.

4 красавіка стала вядома аб тым, што Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь вынесла пісьмовыя папярэджанні Партыі БНФ, Аб'яднанай грамадзянскай партыі і ПАГА «Рух «За Свабоду» ў сувязі з арганізацыяй імі масавага мерапрыемства на Дзень Волі 25 сакавіка 2017 года.

Некаторыя ўдзельнікі мірных сходаў падвергліся некалькім адміністрацыйным арыштам, якія ішлі адзін за адным: вядомага гомельскага відэаблогера Максіма Філіповіча, які з 13 сакавіка адбываў у ізалятары часовага ўтрымання ў Гомелі 13, 5 і 7-сутачныя арышты за ўдзел у так званых

“акцыях пратэстаў дармаедаў”, зноў асудзілі пасля вызвалення да 7 сутак арышту. Такім чынам, ён правёў у зняволенні больш за месяц. Максім Вінярскі атрымаў два арышты запар: на 10 сутак і на 8 сутак; Леанід Кулакоў атрымаў максімальна магчымы па працягласці арышт — 25 сутак.

У траўні штрафам і арыштам падвергліся ўдзельнікі мітынгу і шэсця, праведзенага 1 траўня ў Мінску з ініцыятывы «Беларускага нацыянальнага кангрэса»; пратэстныя акцыі ў гэты дзень адбыліся таксама ў Гомелі, Брэсце, Магілёве, Баранавічах і завяршыліся затрыманнямі актывістаў.

Улетку пратэстная актыўнасць, а разам з ёй і колькасць парушэнняў правоў на мірны сход, знізілася. Тым не менш, улады рэагавалі штрафамі і арыштамі на кожны выпадак выступленняў: былі пакараныя ўдзельнікі пікету салідарнасці з фігурантамі “справы патрыётаў”, пікету супраць правядзення сумесных беларуска-расійскіх ваенных вучэнняў «Захад-2017», акцыі «Марш абураных беларусаў 2.0», іншых выступаў актывістаў.

Усяго, па даных ПЦ «Вясна», за 2017 год суддзямі па артыкуле 23.34 КаАП (за ўдзел ці арганізацыю мірных сходаў) было вынесена не менш 425 пастановаў. Не менш за 126 (з іх 94 у межах падаўлення выступленняў на Дзень Волі) выпадкаў прыцягнення да адказнасці ўдзельнікаў мірных сходаў (або прэвентыўнага арышту актывістаў) суддзямі афармлена па артыкуле 17.1 КаАП як дробнае хуліганства па хлуслівых тлумачэннях супрацоўнікаў органаў унутраных справаў, не менш за 8 — па артыкуле 23.4 як непадпарадкаванне супрацоўнікам ОУС. Няма дакладных звестак аб тым, як афармлена прыцягненне да адказнасці яшчэ як мінімум 42 удзельнікаў мірных сходаў. Такім чынам, за 2017 год зафіксаваныя больш за 600 выпадкаў пераследу ў адміністрацыйным парадку за ажыццяўленне права на мірны сход. У больш чым 250 выпадках суд выбраў мерай спагнання адміністрацыйны арышт.

Улады таксама абмяжоўвалі свабоду выказвання меркавання, якая рэалізоўвалася іншымі сродкамі.

Так, у Магілёве ў дачыненні да Уладзіміра Лапцэвіча складзена сем пратаколаў за публікацыі ў тыднёвіку беларусаў Польшчы «Ніва». У яго дзеяннях міліцыяй былі угледжаныя прыкметы правапарушэння — незаконнага вырабу прадукцыі СМІ.

Непрапарцыйна жорстка быў пакараны за спробу нанясення надпісу «сатана» на скульптуру У. Леніна ў г. Ліда Мікалай Мякшыла: пры затрыманні ён падвергнуўся збіццю, правёў без дастатковых падставаў больш за два месяцы да суда ў турме, па прысудзе суда быў пакараны годам абмежавання волі.

Больш за год пад вартай ўтрымліваюцца беларускія аўтары шэрагу расійскіх інфармацыйных рэсурсаў — дацэнт БДУІР Юрый Паўлавец, былы ахоўнік Дзмітрый Алімкін і галоўны рэдактар часопіса «Новая эканоміка» Сяргей Шыпценка. Усіх іх абвінавачваюць па ч. 3 арт. 130 Крымінальнага кодэксу — «Распальванне расавай, нацыянальнай або рэлігійнай варожасці, здзейсненае групай асобаў». Акрамя таго, Юрыю Паўлаўцу і Сяргею Шыпценку прад'яўленае абвінавачванне ў незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці (ч. 1 арт. 233 КК). Фігурантам справы пагражае да 12 гадоў пазбаўлення волі. Бок абароны абгрунтавана крытыкуе якасць прадастаўленых абвінавачваннем доказаў і спасылаецца на ажыццяўленне абвінавачанымі сваіх асноўных правоў, гарантаваных Канстытуцыяй і міжнароднымі абавязальніцтвамі Беларусі ў галіне правоў чалавека. Раней, 1 лістапада 2017 года, ГА «Беларуская асацыяцыя журналістаў», РПГА «Беларускі Хельсінкскі камітэт», Праваабарончы цэнтр Вясна» і шэраг іншых арганізацый выступілі з сумеснай заявай, у якой заклікалі ўлады Беларусі забяспечыць адкрытае судовае разбіральніцтва дадзенай крымінальнай справы ў адпаведнасці з прынцыпамі справядлівага судовага разбору, а таксама міжнародных стандартаў у галіне абароны свабоды слова і выказвання меркаванняў.

## V. АБМЕЖАВАННЕ НА СВАБОДУ РАСПАЎСЮДУ ІНФАРМАЦЫІ. ПЕРАСЛЕД ЖУРНАЛІСТАЎ

Летась прыкметна ўзмацніліся рэпрэсіі ў дачыненні да журналістаў незалежных выданняў. Гэта выявілася ва ўзмацненні ціску на журналістаў-фрылансераў, якія супрацоўнічаюць з замежнымі СМІ і не маюць акрэдытацыі ў Беларусі, а таксама ў перашкодзе прафесійнай дзейнасці журналістаў пры асвятленні пратэстных акцый.

Паводле інфармацыі Беларускай асацыяцыі журналістаў, за год па артыкуле 22.9 КаАП за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ суддзі 69 раз прызначалі штрафы на агульную суму 52 923 беларускіх рубля. Па сем разоў, напрыклад, аштрафаваныя журналісты Вольга Чайчыц і Ларыса Шчыракова, 11 разоў — Кастусь Жукоўскі.

Улады пераследуюць незалежны тэлеканал «Белсат»: 31 сакавіка міліцыя ўварвалася зператрусам у два мінскія офісы тэлеканала і вывезла адтуль тэхніку. Там жа затрымалі журналіста Алеся Любенчука і па хлуслівых сведчаннях міліцыянтаў асудзілі да штрафу за дробнае хуліганства. У кастрычніку суддзя па надуманых падставах аштрафаваў на 920 рублёў аператара тэлеканала Аляксандра Баразенку за нібыта парушэнне аўтарскіх правоў на брэнд «Белсат» — забароненае ў 2014 годзе Вярхоўным Судом выкарыстанне адпаведнага лагатыпа на апаратуры.

14 снежня Міністэрствам інфармацыі прынята рашэнне аб абмежаванні доступу да інфармацыйнага рэсурсу belaruspartisan.org — незалежнага сайта «Беларускі партызан». Рашэнне прынята ў сувязі з тым, што “на паказаным інфармацыйным рэсурсе, размешчаным за межамі нацыянальнага сегмента сеткі інтэрнэт, рэгулярна размяшчаюцца матэрыялы, у якіх змяшчаецца забароненая інфармацыя”.

## VI. КАТАВАННІ І ЖОРСТКАЕ, БЕСЧАЛАВЕЧНАЕ, ЗНЕВАЖАЛЬНАЕ АБЫХОДЖАННЕ

Нягледзячы на крытыку з боку праваабаронцаў, па-ранейшаму ў крымінальным заканадаўстве адсутнічае адказнасць за жорсткае, бесчалавечнае, прыніжальнае абыходжанне. Прадугледжана адказнасць за наўмыснае здзяйсненне службовай асобай дзеянняў, якія відавочна выходзяць за межы правоў і паўнамоцтваў, дадзеных яму па службе, што пацягнула прычыненне шкоды ў буйным памеры або істотнай шкоды правам і законным інтарэсам грамадзян або дзяржаўным ці грамадскім інтарэсам (перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў).

Практыка разгляду зваротаў аб прыцягненні да крымінальнай адказнасці супрацоўнікаў органаў унутраных справаў, якія ўжылі фізічную сілу, спецсродкі ці іншымі спосабамі прычынялі боль і пакуты грамадзянам, незаконна зводзіцца да канстатацыі прадугледжанага Законам «Аб органах унутраных справаў» права на прымяненне фізічнай сілы, зброі і спецсродкаў без ўліку абгрунтаванасці і прапарцыйнасці прымянення такіх мер.

Адказнасць за прымяненне катаванняў паводле Крымінальнага кодэкса наступае толькі ў выпадку іх выкарыстання ў дачыненні да падазраванага, абвінавачанага, пацярпелага, сведкі для прымусу да дачы паказанняў альбо ў дачыненні да эксперта для прымусу да дачы заключэння асобай, якая вядзе дазнанне, папярэдняе следства або ажыццяўляе правасуддзе. Такім чынам, дзеянні іншых прадстаўнікоў улады або ў іншых мэтах, якія падпадаюць пад вызначэнне катаванняў, згодна з адпаведнай Канвенцыяй, могуць застацца па-за крымінальным пераследам або кваліфікавацца як злачынства супраць здароўя грамадзянаў без уліку падвышанай небяспекі такіх дзеянняў.

Такі падыход адмаўляе саму ідэю нецярпімасці да любых неапраўданых праяваў жорсткасці і дазваляе вінаватым ва ўжыванні забароненага абыходжання сысці ад адказнасці альбо панесці яе ў значна меншай ступені.

Так, пасля павярхоўнай праверкі было адмоўлена ва ўзбуджэнні крымінальнай справы па факце катаванняў у КДБ затрыманага актывіста Сяргея Кунцэвіча.

Нягледзячы на шматлікія звароты ў Следчы камітэт і пракуратуру, без належнага расследавання засталіся выпадкі масавага прымянення жорсткага і

зневажальнага абыходжання з затрыманымі падчас падаўлення масавых грамадзянскіх пратэстаў на Дзень Волі ў г. Мінску, калі сотні грамадзян ўтрымліваліся ў дождж і снег пад адкрытым небам у непрыстасаваным месцы — у дварах упраўленняў унутраных справаў, часта з паднятымі ўверх рукамі, на “расцяжцы”; ёсць звесткі і аб адвольным збіцці такіх затрыманых.

У жорсткіх, прыніжальных умовах праходзіла адбыццё адміністрацыйных арыштаў: арыштаваныя ўтрымліваліся ў антысанітарных умовах, не забяспечваліся іх элементарныя патрэбы і правы — на душ, шпацыр, атрыманне якаснага дастатковага харчавання і вады, медыцынскую дапамогу.

Зафіксаваныя факты жорсткага, бесчалавечнага, зневажальнага абыходжання з асуджанымі да пазбаўлення волі. У асабліва ўразлівым становішчы аказваюцца асобы, якім неабходная медыцынская дапамога. Далёка не кожны выпадак гібелі зняволеных становіцца прадметам бесстаронняга расследавання. Следчыя неабгрунтавана і заўчасна спыняюць адпаведныя крымінальныя справы і праверкі або наогул адмаўляюць у іх правядзенні.

Зняволеныя прыцягваюцца да прыніжальнай працы ў якасці сродку ўціхамірвання і пакарання; за адмову ад выканання такіх работ зняволеныя прыцягваюцца да дысцыплінарнай адказнасці, што стварае перадумовы да павелічэння тэрміну пакарання. На 1 кастрычніка 2017 г. у месцах пазбаўлення волі змяшчалася 33 400 чалавек.

Сярод іх — палітвязень Міхаіл Жамчужны, якому намаганнямі адміністрацыі папраўчай установы створаныя невыносныя ўмовы ўтрымання; за патрабаванні забяспечыць бяспеку зняволенага яго неаднаразова каралі ў дысцыплінарным парадку. Двойчы палітвязень быў у кроку ад пераводу ў турму.

## VII. ПАРУШЭННЕ СВАБОДЫ АБ'ЯДНАННЯЎ

Праваабаронцы канстатуюць адсутнасць прагрэсу ў забеспячэнні ўладамі свабоды асацыяцыі.

Па-ранейшаму пад пагрозай крымінальнага пакарання забаронена дзейнасць незарэгістраваных грамадскіх аб'яднанняў, у тым ліку тых, якія кіруюцца правамернымі мэтамі. У той жа час, рэгістрацыя грамадскіх аб'яднанняў татальна кантралюецца Міністэрствам юстыцыі і упраўленнямі юстыцыі мясцовых органаў улады; рэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў, якія маюць палітычныя ці праваабарончыя мэты, перашкаджаюць нават дробныя, лёгка папраўныя, а то і надуманыя хібы ў афармленні дакументаў.

Так, на працягу года ўладамі адмоўлена ў рэгістрацыі гісторыка-асветніцкага грамадскага аб’яднання «Хайсы», культурна-асветніцкага аб'яднання «Моладзь Адраджэньня», Сацыяльна-хрысціянскага руху, іншых аб'яднанняў.

Адсутнічае прагрэс у стварэнні нарматыўнай базы, спрыяльнай для атрымання НДА легальнага фінансавання сваёй дзейнасці. Парушэнне забаронаў і абмежаванняў, недапушчальных з пункту гледжання Канстытуцыі і міжнародных абавязальніцтваў Беларусі ў галіне забеспячэння свабоды асацыяцыяў, цягне адміністрацыйную або крымінальную адказнасць.

## VIII. ПАРУШЭННІ САЦЫЯЛЬНЫХ І ЭКАНАМІЧНЫХ ПРАВОЎ

У 2017 г. парушэнні сацыяльных і эканамічных правоў грамадзянаў краіны былі асабліва актуальнымі ў сувязі з пачаткам масавага прымянення ўладамі краіны Дэкрэта № 3. Яшчэ ў перыяд яго прыняцця ў 2016 годзе Дэкрэт падвяргаўся рэзкай крытыцы з боку праваабарончай супольнасці краіны і незалежных прафсаюзаў з пункту гледжання адпаведнасці асобных палажэнняў дадзенага Дэкрэта Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і міжнародным нормам у галіне правоў чалавека.

Асаблівую крытыку праваабарончай супольнасці атрымалі нормы Дэкрэта, якія прадугледжваюць магчымасць прымянення адміністрацыйнага арышту ў дачыненні да грамадзянаў, якія не маюць магчымасці альбо ўхіляюцца ад выплаты збору, які быў уведзены Дэкрэтам. Праваабарончыя арганізацыі расцанілі дадзеныя нормы як прымусовую працу і парушэнне адпаведнай Канвенцыі МАП, а таксама палажэнняў МПГПП.

На працягу 2017 г. у Беларусі працягвалася практыка прымянення такіх традыцыйных формаў прымусовай працы, як накіраванне грамадзянаў у ЛПП, праца “абавязаных асобаў”, прыцягненне грамадзянаў да бясплатнай працы на “суботніках”, а таксама да ўборкі сельгаспрадукцыі на палях сельгаспрадпрыемстваў. Варта адзначыць, што праваабаронцы і незалежныя прафсаюзы, а таксама міжнародныя арганізацыі, такія як МАП і Камітэт ААН па эканамічных, сацыяльных і культурных правах, настойліва заклікалі ўлады Беларусі адмовіцца ад прымянення прымусовай працы і прывесці нормы заканадаўства, якія змяшчаюць элементы прымусовай працы, у адпаведнасць з міжнароднымі стандартамі ў галіне правоў чалавека.

На працягу года вялікі рэзананс выклікалі выпадкі масавага прыцягнення працоўных шэрагу пераважна дзяржаўных прадпрыемстваў, а таксама студэнтаў вну да сельгасработ па ўборцы ўраджаю. Прычым ва ўсіх выпадках дадзеныя мерапрыемствы былі арганізаваныя па ўказаннях мясцовых выканаўчых органаў улады і насілі ярка выражаны мабілізацыйны характар у мэтах эканамічнага развіцця рэгіёну. Такая праца па ўказанні мясцовых органаў улады насіла абавязковы характар для наймальнікаў і адміністрацый вну, якія, у сваю чаргу, у абавязковым парадку накіроўвалі сваіх работнікаў і студэнтаў на сельгасработы.

Асабліва паказальнай у дадзеным выпадку з'яўляецца арганізацыя працоўных шэрагу прадпрыемстваў і вну г. Гомеля для уборкі лёну ў некалькіх раёнах Гомельскай вобласці. Публікацыі аб дадзенай сітуацыі з'явіліся ў шэрагу незалежных СМІ, а ў распараджэнні рэдакцыі «Гомельскай Вясны» апынуліся адпаведныя распараджэнні старшыні Гомельскага аблвыканкама Уладзіміра Дворніка і старшыні гарвыканкама Пятра Кірычэнкі аб аказанні сельгаспрадпрыемствам дапамогі ва ўборцы лёну. Спробы праваабаронцаў звярнуць увагу пракуратуры на незаконнасць дадзенага мерапрыемства, як і ў іншых падобных выпадках, плёну не даюць.

## IX. ВЫКАНАННЕ РЭСПУБЛІКАЙ БЕЛАРУСЬ МІЖНАРОДНЫХ АБАВЯЗАЛЬНІЦТВАЎ У ГАЛІНЕ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА

23 чэрвеня на 35-й сесіі Савета па правах чалавека ААН адбылося галасаванне па рэзалюцыі «Становішча ў галіне правоў чалавека ў Беларусі», а 27 чэрвеня была прынята рэзалюцыя ПАСЕ аб сітуацыі ў Беларусі.

Абедзве рэзалюцыі сталі рэакцыяй міжнародных арганізацый на пагаршэнне сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.

Рэзалюцыяй, прынятай Саветам па правах чалавека ААН, быў падоўжаны мандат спецдакладчыка. Прычым варта адзначыць, што за прыняцце гэтай рэзалюцыі прагаласавала большасць членаў Савета. Прадстаўнікі праваабарончай супольнасці рабілі пэўныя намаганні для падаўжэння мандата спецдакладчыка па правах чалавека, матывуючы гэта пагаршэннем сітуацыі з правамі чалавека ў краіне.

Рэспубліка Беларусь працягвала палітыку непрызнання мандата спецыяльнага дакладчыка ААН па правах чалавека, уведзенага Саветам па правах чалавека ААН ў 2012 г. За ўсе гады Міклаш Харасці не меў магчымасці наведаць Беларусь, паколькі для гэтага неабходна афіцыйнае запрашэнне уладаў. Пры падрыхтоўцы сваіх справаздачаў спецдакладчык выкарыстаў інфармацыю ад беларускіх праваабаронцаў, экспертаў, журналістаў, з якімі сустракаецца за межамі краіны, чэрпаў неабходныя звесткі з афіцыйных дакументаў, а таксама з перапіскі грамадзянаў Беларусі з іншымі праваабарончымі механізмамі ААН.

6 чэрвеня ў Мінску прайшла 26-я штогадовая сесія Парламенцкай Асамблеі АБСЕ. Напярэдадні сесіі, гэтак жа ў Мінску, быў праведзены паралельны форум грамадзянскай супольнасці, на якім змаглі прысутнічаць шматлікія прадстаўнікі міжнародных і замежных праваабарончых арганізацый, у тым ліку раней неўязныя ў Рэспубліку Беларусь. Па выніках форуму была прынятая рэзалюцыя. Пэўнай сенсацыяй стаў прыезд у Мінск у якасці ўдзельніка сесіі Парламенцкай Асамблеі АБСЕ г-на Міклаша Харасці, які таксама ўзяў удзел у працы круглага стала з удзелам прадстаўнікоў

дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь, палітычнай апазіцыі і грамадзянскай супольнасці.

Рэспубліка Беларусь цягам 2017 г. працягвала дэманстраваць вельмі выбарчы падыход да выканання ўзятых на сябе міжнародных абавязальніцтваў у галіне правоў чалавека. У некаторых абласцях дэманстраваўся пэўны прагрэс, у прыватнасці ў імплементацыі палажэнняў Міжнароднай канвенцыі па правах людзей з інваліднасцю, раней ратыфікаванай Беларуссю. Таксама актыўнае супрацоўніцтва дзяржаўных органаў з НДА ажыццяўлялася па пытаннях гендарнай роўнасці і правоў дзяцей.

У 2017 года Рэспубліка Беларусь падала справаздачу ў Камітэт па правах чалавека ААН аб выкананні краінай палажэнняў Міжнароднага пакта аб грамадзянскіх і палітычных правах, ліквідаваўшы такім чынам шматгадовую запазычанасць у справаздачнасці перад дадзеным дамоўным органам. Адбыліся слуханні ў адпаведных камітэтах ААН па справаздачах Рэспублікі Беларусь аб выкананні Канвенцый ААН па прадухіленні дыскрымінацыі жанчын і расавай дыскрымінацыі.

На працягу года прайшоў шэраг мерапрыемстваў, прысвечаных пытанням выканання прынятага ўрадам Беларусі Міжведамаснага плана па рэалізацыі рэкамендацый, прынятых Рэспублікай Беларусь па выніках праходжання другога цыклу Універсальнага перыядычнага агляду ў Савеце ААН па правах чалавека, і рэкамендацый, адрасаваных Рэспубліцы Беларусь дамоўнымі органамі па правах чалавека на перыяд 2016-2019 гг. Дадзеныя мерапрыемствы, арганізаваныя МЗС Рэспублікі Беларусь, праходзілі з удзелам прадстаўнікоў зацікаўленых міністэрстваў і прадстаўнікоў шэрагу НДА, у тым ліку і праваабарончых. Аднак варта адзначыць, што сама рэалізацыя Плана адбываецца вельмі павольна, несістэмна, без належнага ўключэння ў гэты працэс праваабарончай супольнасці краіны. У краіне так і не былі створаныя пастаянна дзеючыя дыялогавыя пляцоўкі ўзаемадзеяння дзяржаўных органаў і праваабаронцаў, да гэтага часу адсутнічае інстытут упаўнаважанага па правах чалавека.

Рэспубліка Беларусь працягвала практыку невыканання меркаванняў Камітэта па правах чалавека ААН, прынятых ім па індывідуальных зваротах грамадзянаў краіны па парушэнні іх правоў з боку дзяржавы, адмаўлялася ад супрацоўніцтва са спецдакладчыкам ААН па сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі.